Год II. Субота 25 лютага 1922 г. № 1.

# РОДНАЯ СТРАХА

АДРЕС РЭДАКЦЫІ І КАНТОРЫ: Вільня, Вул. Міцкевіча (Георгіеускі) 33, кв. 4. Рэдакцыя адчынена што дня, апрача сьвят ад 11 да 2 і ад 4 да 5 п.

Цана нумару 20 марок. Падпіска на 1 месяц 80 м., на 3 месяцы 240 мар.

ЦАНА АБВЕСТАК: За 1 радок 1 стр.—30 мар. На апошняй—15. Для шукаючых працы на 25 проц. танєй.

✝

Сьв. Пам.

## АНТОН ЛЕВІЦКІ

**24 Лютага 1922 г. а гадзіне 7 у вечары памёр у літоўскай паліклініцы вядомы беларускі пісьменьнік Ядвігін Ш. (Антон Левіцкі).**

## Сіла нашай сьвядомасьці.

Польскія эндэцкія кругі заусёды стараюцца пераканаць усіх, што беларусоў зусім няма. Яны даводзяць, што ёсьць толькі людзі, якія гаворацць на папсаванай польскай, або расейскай мове, якіх і залічаюць да беларусаў, але беларусоў як нацыі як асобнага народу—ніколі ня было і няма.

Гэтак аб беларусох часта пішуць эндэцкія газэты, гэтак аб нас адзываюцца у Віленскім Сойме эндэцкія паслы.

Няма беларусоў і толькі.

Тымчасам, выдаецца вельмі дзіўным, што аб гэтым—паводлуг эндэцыі—зусім ня істнуючым народзе, яго нацыянальным руху, часта ўспамінае ня толькі прэса ўсіх левых водценяў, але і правага напрамку.

Бываюць выпадкі, што і найправейшыя польскія кругі, найзаядлейшыя шовіністы успамінаюць аб беларусох, як аб рэальна істнуючым народзе як аб нацыі.

Возьмем, напрыклад, нядаўныя арышты ў Вільні і, затым, высылкі ў Коўну літвіноў і беларусоў. Тут ужо зузім выразна гаварылася аб *беларусох*: арыштавалі—літвіноў і беларусоў і выслалі—беларусоў і літвіноў, значе—беларусы ёсьць.

Таксама, гэтай прэсай, успамінаецца, і аб нацыянальных праявах беларускага жыцьця: паўсталі у Савеччыне—беларусы, выступалі з дамаганьнямі—беларусы, сабраліся—беларусы, пратэставалі—беларусы і г. д. усё *беларусы*.

Такім чынам, усялякія довады аб неістнаваньні беларусоў самі па сабе адпадаюць, бо *яны ёсьць*, аб іх пішуць і аб іх гавораць.

Сам рух беларускі—нацыянальная сьвядомасьць—як яе не стараюцца прыдушыць і спыніць,—усё-ж ткі шыбка пашыраецца і з кожным годам, а навет з кожным месяцам займае ў жыцьці ўсё больш пачэснае мейсца.

Покуль трымалі беларуса-мужыка ў няволі, не давалі яму ніякай магчымасьці вучыцца, дык ён слаба ведаў, хто ён—просты, тутэйшы чалавек, ды і толькі... Але карыстаючы з першай магчымасьці, у расейскія школкі пачалі уціскацца сыны заняпаўшага народу і хоць у чужацкай мове, але здабываць сабе асьвету. Сярод зусім няпрыхільных абставін, гэтыя людзі задумаліся аб нясьвядомасьці свайго народу, зацікавіліся яго цростасьцю і шчыра ўзяліся за адбудову сваей бацькаўшчыны, за сваю нацыянальную працу.

Кожны год павялічваў лік гэтых ідэйных народных працаўнікоў і, ў канцы канцоў, яны зрабілі тоя, чаго можа ў так хут-





кім часе і самі не спадзяваліся зрабіць. Беларускі народ, дзякуючы сваім лепшым сынам, нацыянальна прабудзіўся і цяпер добра ведае хто ён.

Сягоньня і гэтай частцы Беларусі—пад Польшчай—закідаюцца рожныя ўрадовыя установы рожнымі беларускімі справамі; што дзень, то ўсё паступаюць новыя заявы-паданьні аб адкрыцьці то там, то сям новых беларускіх школак. А гэтай асьветы—ў сваей роднай мове—дамагаецца ўжо сам народ.

Расейская школка, якая мела заданьне зрусыфікаваць беларускі народ, зрабіла якраз адваротную работу. Не памаглі чарнасоценныя чыноўнікі і духавенства.

Сіла праўды зьнявэчыла ўсе іхнія чарнасоценныя-жандарскія захады і зрабіла сваё вялікае дзела.

А зрабіла гэта ні што іншае, як адукаванае пакаленьне нашага сялянства, дзеці беларускага народу, хоць і выхаваныя ў чужацкай маскоўскай школцы.

Беларуская культура развіваецца, народная прасьвета пашыраецца. Ня толькі у Савецкай Беларусі, ня толькі тут—пад Польшчай, але навет у Латвіі, гдзе лік беларусоў і ня так ўжо значны, а тымчасам, коштам латвійскага ўраду устроены там беларускія курсы і адчынена беларуская вучыцельская сэмінарыя.

Сягоньня, вольны славянскі народ—Чэхі у Пражскім унівэрсытэце вызначылі 30 стыпэндыяў для студэнтаў беларусаў.

Адусюль, з усіх канцоў сьвету адзываюцца сьвядомыя беларусы! Усюды гуртуюцца і цікавяцца сваімі народнымі справамі. Гэткія гурткі, не гаворачы ўжо аб эўрапэйскіх дзяржавах і іхніх сталіцах, але істнуюць і ў Амэрыцы і іншых частках сьвету.

Сягоньня гэтага руху ніякім тушыцелям ўжо ня спыніць! А тая паганая работа, якую яны вядуць, толькі павялічвае магутнасьць беларускага нацыянальнага разьвіцьця—умацоўвывае ў народзе яго нацыянальную сьвядомасьць!

На дапамогу і зьмену сучасным працаўніком ва ўсіх частках ганебна разарванай Беларусі, гатовяцца цэлыя кадры новых людзей. Гэта дзеці сялян—„мужыкоў“,—вучні беларускіх школ, студэнты рожных унівэрсытэтаў кветкі і гордасьць беларускага народу.

Гэтых новых працоўнікоў дадуць нам у нашым беларускім краі таксама і іншыя не беларускія—школы, у якіх для прыняцьця іншай культуры змушаны вучыцца дзеці беларускіх сялян. У іхніх душах праз некатары час таксама, як колісь-то і у расейскіх школах, прабудзіцца народная сьвядомасьць, загаворыць беларускае сэрца і пацягне да сваіх.

І напэўна для Беларусі настане той час, калі сягоньня разарваныя часткі яе зямлі злучацца ў адно цэлае і на ёй будзе цьвісьці беларуская мова; калі, як праўдзівы гаспадар, без усялякага гныбленьня ў сябе іншых нацыяў, а ў згодзе і прыязьні з усімі —запануе ў сваім краі беларус.

Мо яшчэ час гэты настане і ня скора, але ён напэўна прыйдзе.

Бо хваля народнай сьвядомасьці робіцца што раз, то ўсё магутнейшай, захопліває большыя і большыя кругі і мусіць парэшце затапіць у беларускім народзе усё чужацкае і накінутае і паплыць руслом сваей роднай культуры без найменшай крыўды для іншых нацыяў у гэтым краі.

Кожны павінен і мусіць шанаваць сваё роднае, а шануючы сваё—паважаць і цаніць іншае. Гэта абавязак чалавека.

*В. Хлеркаў.*

---

# Аб пастанове Віленскага Сойму.

Віленскі Сойм, склікавы дэкрэтам Гэнэрала Жэлігоўскага з мэтай выяўленьня волі народу ў справе далейшага палітычна-дзяржаўнага быцьця Віленшчыны, пачаў сваю працу 1-га лютага.

20 лютага, паміж 4 і 5 гадзінай, пасьля паў дня, Віленскі Сойм вынес сваю пастанову у гэнай справе, якую і друкуем у канцы гэтай стацьці.

Пастанова гэная, хаця яшчэ аканчацельна не вырашае справы Віленшчыны, але ўсё-ж з'яўляецца дакумэнтам ня толькі вялікай гістарычнай вагі, але дакумэнт гэны, бязумоўна, будзе мець рашучае значэньне на далейшую долю нашага краю.

Пастанова гэная у асноўных пунктах сваіх, насамперш, ясна і катэгарычна спыняе якую небудзь залежнасьць Віленшчыны — ад Расеі, адкідае уселякія прэтэнсіі да Віленшчыны Літоўскай Рэспублікі і прызнае Віленшчыну непадзельнай часткай Польскай Рэспублікі.

Вось тры думкі, якія ствараюць аснову рэзалюцыі Віленскага Сойму.

Гэткім чынам, з волі прадстаўнікоў большасьці Віленскага Народу, — Віленшчына стварае адгэтуль непадзельную частку Польскай Дзяржавы.

Аднак пастанова Віленскага Сойму, як мы казалі вышэй, ня вырашае яшчэ аканчацельна Віленскага пытаньня.

Справа ў тым, што ў вырашэньні пытаньня аб Віленшчыне зацікаўлены ня толькі мы і Польшча, але амаль усе дзяржавы Эўропы.

Мы ведаем, што Ліга Народаў яшчэ нядаўна думала справу Віленшчыны развязаць іначай. Праэкты прадстаўніка лігі народаў Гіманса прызнавалі Віленшчыну за частку Літвы.

Але хто знае Віленшчыну, той добра ведае, што Віленшчына па складу народаў, паміж каторымі найбольш і беларусаў і палякаў і толькі усім нязначны лік ліцьвіноў, нічога супольнага з Ковенскай Літвою ня мае. Ведае аб гэным п. Гіманс, добра ведае аб гэным і Ліга Народаў паслаўшая яго. І калі ня гледзячы на тое п. Гіманс, суліў Віленшчыну Літве, дык рабіў гэта не дзеля пекных вочаў літоўскіх дзяўчат, а толькі дзеля таго, што дзяржавы, якія ўваходзяць у склад Лігі Народаў, мелі ў гэным свой інтэрас.

Мы ня думаем каб інтэрас гэты перастаў істнаваць цяперака, бо ня шмат вады уцякло ад часу апошняга праэкту п. Гіманса, ня так ужо шмат перамянілася.

І дзеля гэтага яшчэ многа прыдзецца падбаць і Польскаму Ураду і Віленскаму Сойму, пакуль удасцца інтэрасы Эўрапэйскіх Дзяржаваў згодзіць з воляй Віленскага Народу.

---

## Пастанова аб дзяржаўнай прыналежнасьці Віленскай Зямлі.

У імя Усемагутнага Бога, Віленскі Сойм, выбраны свабоднай і агульнай воляй насяленьня Віленскай Зямлі, маючы права рашаць лёс гэтай зямлі, памятаючы векавыя вузлы, якія актамі ў Гародлі і Любліне, зацьверджанымі ў майскай конституцыі 1791 г., землі нашыя злучылі ў адно цэлае з Польшчай у сілу дабравольных дагавораў, таксама крэў бацькоў нашых пралітую ў бітвах за свабоду пасьля падзелаў Бацькаўшчыны, аддаючы чэсьць мужаству польскага жаўнера гэтай зямлі, Язэпа Пілсудзкага, геройскаму акту генэрала Жэлігоўскага, згодна з правам народаў на самавызначэньне, ад імя населеньня гэтай зямлі, маючы на відоку забеспячэньне яго свабоды і духоўнага і матэрыяльнага развіцьця, ў паседжаньні сваім 20-га лютага 1922 году пастанаўляем.

1) Усякія дзяржаўныя узлы, насільна навязаныя нам Расейскаю дзяржаваю, лічым безпаваротна парванымі і няістнуючымі і адказываем Расеі, у праве мець голас у пытаньнях аб Віленскай Зямлі.

2) Дзяржаўна-прававое дамаганьне Літоўскай рэспублікі на Віленскую зямлю, якое выявілася ў літоўска-савецкай умове 12 ліпеня 1920 г., як і ўсякія другія—назаўсёды адкідаем.

3) Урачыста заяўляем, што не прызнаём ніякіх другіх рашэньняў аб лёсах нашай зямлі, як і ў парадках унутраннага ўстрою, чужымі нам дзеячамі і проціў нашай волі.

4) Віленская Зямля бяз ўсякіх варункаў і агаворак зьяўляецца непадзельнай часткай Польскай Рэчыпасполітай.

5) Польская Рэчпаспалітая мае поўныя і выключныя верхоўна-дзяржаўныя правы над Віленскай Зямлёй.

6) Улада Польскай Рэчыпасполітай мае выключнае права на выданьне законаў і ўстройства Віленскай Зямлі, згодна конституцыі Польскай Рэчыпаспалітай 17 сакавіка 1921 г.

7) Прызываем Заканадаўчы Сойм і Урад Польскай Рэчыпаспалітай зараз-жа ўзяць на сябе правы і абавязкі, якія выцякаюць з факту прыналежнасьці Віленскай Зямлі да Польскай Рэчыпаспалітай.

---

# Аб формах дзяржаунасьці.

I.

Дзяржавы, якія істнуюць на сьвеце, залежна ад таго, ў чыіх руках знаходзіцца найвышэйшая ўлада, могуць быць падзелены на некалькі тыпаў. Насамперш, найболей знаёмы нам тып дзяржавы—абсалютная манархія. Абсалютнай (альба поўнай) манархіяй называецца дзяржава, калі найвышэйшая ўлада ў дзяржаве знаходзіцца ў руках аднаго чалавека—манарха альба цара і пасьля сьмерці перахадзіла да яго сына.

Тыпам гэткай дзяржавы была, як усім вядома, Расея да 1917 году. Уся ўлада ў Расеі была ў руках аднэй асобы—цара. Ен пісаў законы, ён назначаў міністраў, ён зьмяняў іх, і за сваю работу міністры адказывалі толькі прад царом. Цар аб'яўляў вайну, назначаў падаткі. Воля цара—была законам, а ўсе людзі, якія жылі на абшарах Расеі былі падданымі расейскага цара. Праўда, ад 1905 году была ў Расеі і, так званая, гасударственая дума, што так сама раіла аб розных законах. Але дума гэная толькі радзіла, і закон, калі яна прыняла, ня быў яшчэ законам. Каб стаць законам, пастанова расейскай Думы йшла на подпіс цара, і калі ён гэнай пастановы думскай не падпісаў, то было гэтак, бытцам Дума пастановы і не вынасіла. Пры гэткіх варунках народ быў зусім спынены ад пісаньня законаў і дзеля гэтага, ня дзіва, што законы пісаліся ня тыя, якія патрэбны народу, але такія, якія былі патрэбны цару, царскай сямьі і яго міністрам. Найгорш было тое, што міністры так сама адказвалі за сваё праўленьне толькі прад царом. Для народу гэта было вельмі дрэнна. Чыноўнікі іншы раз робяць, Бог ведае што, зьдзекуюцца над людзямі, іншы раз зусім паступаюць ня згодна навет з гэнымі дрэннымі царскімі законамі, а жаліцца німа каму. Калі дойдзе, бывала, справа да Гасударственнай Думы і тая пытае міністра, чаму робіцца крыўда народу, то міністр можа зусім не адказываць, і яму за гэта нічога. Дума крычыць яму „ідзі вон“, а ён кажа: „Цар назначыў мяне і ён толькі мае права зьмясьціць мяне“;—застаецца далей міністрам і правіць далей дзяржавай. А народ, падданыя цара, судзіць і маўчыць і плаціць падаткі.

Але што доўга казаць аб абсалютнай манархіі. Кожны з нас на сваім гарбу добра пазнаў што гэта такое, толькі можа ня ўсе ведалі, што гэтак шмат зьдзеку і паненяркі было дзеля таго, што сам народ ня меў права пісаць законаў, што законы пісаў цар, а не народ.

Другі тып дзяржавы, гэта так званыя, дзяржавы конституцыйна манархічныя. На чале-дзяржавы стаіць так сама манарх, цар, але ён ня мае неаграніčанай, поўнай ўлады, а ў іншых дзяржавах конституцыйных, амаль, зусім ніякай

ўлады не мае, а проста з'ўляецца толькі прадстаўніком дзяржавы. Улада гэткага цара ў констытуцыйнай дзяржаве абмежавана так званай „констытуцыей“. Констытуцыя гэта ёсьць збор асноўных законаў дзяржавы.

Зазвычай, да абмежаваньня ўлады цара народ даходзіў шляхам доўгага і ўпорнага змаганьня за свае правы. Вось калі прыходзіў гэткі момант, калі цар бачыў, што народ бунтуе і ня хоча быць болей падданым, а хоча сам пісаць законы, цар уступаў, склікваў прадстаўнікоў народу і яны пісалі асноўны закон, якім павінна кіравацца далей дзяржава. У гэткім законе было напісана; якія правы мае манарх, а якія народ, і залежна ад таго, хто быў ў момант пісаньня гэнага закону сільнейшы, цар—ці народ, прадстаўнікі народу і абмяжоўвалі царскую ўладу. Па гэтаму закону, найчасьцей, права пісаць законы належала толькі да прадстаўнікоў народу, таксама народ адбіраў ад цара права накладаць падаткі і браць рэкрута. А што найважнейшае гэта тое, што міністры адказывалі за праўленьне дзяржавай не прад царом, а прад прадстаўнікамі народу,—прад парлямэнтам, альбо соймам.

Пры гэткіх варунках ужо прадстаўнікі народу самі пісалі законы і мелі магчымасьць даглядаць, каб законы гэныя міністры спаўнялі. А калі які міністар законаў спаўняць ня хоча, дык парлямэнт яму скажа „ідзі вон“—і ён ня можа быць далей міністрам.

Але ў барацьбе за свае правы з царом, народ, пішучы констытуцыю, якая абмяжоўвала ўладу цара, баючыся, каб часам цар у будучыне не падумаў часам ашукаць народ і зноў, тым ці іншым спосабам, ня вярнуў сабе поўнай ўлады, прадстаўнікі народу ў асноўны закон ўвадзілі пункт, па катораму кожны цар, уступаючы на трон, мусіў прысягаць, што ён будзе падпарадкавацца гэнаму асноўнаму закону, гэнай констытуцыі.

Трэцім тыпам дзяржавы ёсьць Рэспублікі. Гэта дзяржавы, ў якіх уся ўлада належыць толькі непадзельна да народу. У парляменце, альбо Сойме, прадстаўнікі народу пішуць законы, міністры так сама адказваюць толькі прад Соймам, Сойм назначае падаткі аб'яўляе вайну, набірае рэкрутаў і г. д. На чале рэспубліканскай дзяржавы стаіць прэзыдэнт. Яго выбіраець альба ўвесь народ, альба прадстаўнікі народу, на нейкі час. Улада яго ясна паказана ў законе, і праступіць яго ён ня мае права.

З гэтага відаць, што разніца паміж констытуцыйнай манархіяй і рэспублікай ў тым, што ў констытуцыйнай манархіі ўлада бытцам падзелена паміж царом і народам, і як цар ня можа пераступіць мяжы паказанай яму ў констытуцыйным законе, так, з другога боку, і народ ня можа болей абмежаваць улады цара, чым яна абмежавана па закону.

А ў рэспубліканскай дзяржаве народ ні з кім улады свае ня дзеліць. Ен сам мае ўсю паўнату ўлады, разніца яшчэ і ў тым, што ў манархіі констытуцыйнай цар—як прадстаўнік дзяржавы-атрымлівае трон пасьля бацькі свайго, пануе да сьмерці, і на трон уступае сын яго. А ў рэспубліках прадстаўніка дзяржавы—прэзыдэнта выбіраець народ і не на век цэлы, а толькі на нейкі час.

Цяперака ў Эўропе найбольш рэспублік. Найстарэйшая з іх—Францыя.

Польская рэспубліка называецца Рэчпаспалітай Польскай, а парлямэнт яе—Соймам. Слова „Рэчпаспалітая“, ў перакладзе на нашу мову, азначае „агульная справа“; інакай кажучы,—Польшча ёсьць дзяржава, якая належыць да ўсяго народу. Тое самае азначае пафранцуску і слова рэспубліка.

Як выжэй мы сказалі, ў Эўропе цяперака найбольш рэспубліканскіх дзяржаваў.

Людзі затрымліваюцца на гэнай форме дзяржаўнасьці, як на найлепшай, ў каторай найбольш народ мае свабоды і найбольш пэўнасьці, што права ўпраўленьня дзяржавай ніхто ад яго не адыме.

Але калісь, яшчэ ня гэтак даўно, ў тыя часы, калі амаль ва ўсіх Эўрапэйскіх дзяржавах сядзелі цары, і то пары з уладай нічым неабмежаванай, а народ францускі, скінуўшы ненавіснага яму цара, сказаў, што болей ніякіх цароў ня хоча, а хоча, стварыўшы рэспубліку, сам упраўляць сабою,—падняўся такі гвалт паміж царамі, што страх.

„Як гэта можа быць, каб існавала дзяржава без цара“—казалі яны „—гэтага-ж ня было ніколі на сьвеце! Скінуць цара, гэта скінуць памазаніка Божага“,—крычалі яны і павелі свае войскі проці рэспубліканскай Францыі.

Але народ францускі патрапіў абараніць свае правы і ня гледзячы на вялікія перашкоды, дагэтуль застаўся поўным гаспадарам у сваей хаце.

**У. М.**

(Д а л е й б у д з е).

# З РАСЕІ.

Калі чытаеш у газэтах аб тым, што робіцца цяперака ў Расеі, проста іншы раз ня хочацца верыць, каб край, такі багаты, якім была калісь Расея, у працягу некалькіх гадоў мог дайсьці да гэткай руіны. І здаецца, што гэтага ня можа быць. Што гэнае пекла на зямлі ёсьць толькі творам выдумак розных пісакаў. Але весткі гэныя прыходзяць з усіх старон, іх прысылаюць карэспандэнты розных газэтаў, іх прывозяць з сабою грамады уцекачоў, якія ня гледзячы на ўсе труднасьці переезду, цэлымі масамі пакідаюць Расею.

Весткі гэныя, адна страшнейшая ад другой. Калі чытаеш іх, альбо слухаеш расказы людзей, што гэна пекла бачылі сваімі вачыма,—дык страх нейкі абвее чалавека, і словы праклянцьця на вінавайцаў людзкога гора зрываюцца з вуснаў.

Вось што расказываюць людзі:

Сягоньня, замест калісь багатай Масквы, засталіся адны абдзёртыя сьцены. Праўда, дзякуючы свабоднаму гандлю, Масква трошкі ажывілася:—адчыніліся крамы, рэстараны, кафэйні, навет кінематографы. Пачынае ажываць крыху і гандаль. Спэкулянты гандлююць таварамі, якія засталіся з даўных часоў, альбо кантрабандным спосабам прывезенымі з заграніцы. На вуліцах Масквы па-

казаліся зноў фарсістыя вопраткі, дарагія футры, з'явіліся ізвошчыкі і самаходы.

Дзякуючы новым дэкрэтам бальшавікоў, Масква трошкі перамяніла свой твар, але сутнасьць яе засталася тая самая.

Цяперака гэны вялізарны край, даўнейшая вотчына цароў, ляжыць бяз сілаў, бяз жыцьця, без надзеі на лепшую будучыну, пад нагамі сваіх новых гаспадароў. Бальшавікі, агнём, крывёю і жалезам на доўгія гады забілі ў людзёх уселякую ахвоту да бунту, да пратэстаў.

Сягоньня у Расеі пануе навет, сякі-такі парадак. Людзі, быццам згодзіліся з савецкай уладай, саветы моцна трымаюць уладу ў руках.

Ніколі яшчэ Расэя ня была ў стане гэткага ўсестароннага заняпаду, як цяперака. Здаецца, што гарэй быць ня можа, а тым часам, яна падае ўсё глыбей і глыбей ў мора няволі і зніштажэньня.

Той хто ня быў у Расеі, ня можа розумам абняць усей тэй вялікай нядолі, якая спаткала расейскі народ.

Гэны, калісь багаты край ідзе па шляху гніцьця, развалу і павольнага зніштажэньня.

Гісторыя народаў, ня ведае такіх здарэньняў.

Над Расеяй навісла новая хмара—цар голад.

Цяперака трудна прадбачыць, што суліць ён і да чаго можа давясьці.

Голад у Расеі вялізарны. Галадуюць губэрні: Вяцкая, Царыцынская, Самарская, Уфімская, Сімбірская, Казанская і Астраханская, а так сама Савецкія Рэспублікі: Татарская, Башкірская, Кіргіская і вокругі: Калмыцкі, Вацяцкі, Чувашскі, Мар'інскі і гэтак званая Нямецкая Камуна.

Гэта вялізарны абшар, на якім жыве амаль 30 мільёнаў народу.

Тамака пануе найстрашнейшы голад, тамака галодная сяліба новага расейскага цара. Адсюль ён выцягвае свае касьлявыя рукі ў розных напрамках і здабывае сабе ўсё новыя і новыя вокругі і савецкія рэспублікі. Ужо ён захапіў некалькі паветаў Тамбоўскай і Варонежскай губэрні, апанаваў Каўказ і Крым, расеўся ў Стаўрапальскай губэрні, у вокругах: Кубанскім, Чарнаморскім, Донскім і Церскім, ужо падходзіць пад Украіну ахопліваючы паволі губэрні: Запарожскую, Кацярынаслаўскую, Мікалаеўскую, Адэскую і Палтаўскую.

Апанаваўшы такі вялізарны край, цар-голад не пакідае свае працы і дзень за днём вырывае з Савецкай Расеі ўсё новыя і новыя абшары.

У сваей барацьбе цар-голад з'яўляецца для бальшавікоў, ворагам страшнейшым, чым збройныя сілы ўсяго сьвета.

І чым кончыцца гэная барацьба?

Розныя людзі розна гавораць аб рэзультатах гэнай барацьбы. Нансен (старшыня міжнароднай камісіі дзеля барацьбы з голадам) кажа, што за некалькі бліжэйшых месяцаў, якія аддзяляюць нас ад новага хлеба вымрэ каля 10 мільёнаў народу.

Гэта да новага ўраджаю!

А што будзе далей? Ці ёсьць надзея, што новы ўраджай спыніць голад? Людзі, якія добра ведаюць аб палажэньні галодных губэрняў, нічога добрага на будучыну не прарочаць. Азімых хлябоў пасеяна толькі палова таго, што летась, і то ня ўсюды. Надзеі на ярыну яшчэ горшыя, дзеля таго, што ня хапае насеньня; а каб навет увесь сьвет дапамог і дастарчыў насеньня, то дастаўка яго да вёсак, амаль не магчыма дзеля няхваткі коняў і скаціны, якая альбо падохла з голаду альбо пайшла на яду. А чым гараць зямлю? Дзеля гэтых прычынаў трэба спадзявацца, што цар-голад яшчэ не адзін год будзе гасьціць у гэным нешчасьлівым краі.

Расея да пояса залезла ў балота, у якое загналі яе бальшавікі. Для адбудовы яе эканамічнага жыцьця патрэбны доўгія гады, а тым часам, людзі мільёнамі мруць з голаду.

Паводле расейскай статыстыкі ад 1914 да 1921 году людзей у Расеі паменшылася на 12 мільёнаў. Але гэтыя мільёны мала непакояць бальшавікоў. Адзін высокі бальшавіцкі камісар, калі зайшла гутарка аб голадзе, сказаў: „Як галодныя ўсе паўміраюць дык голад і ўціхне“.

Так кажуць людзі аб голадзе ў Расеі і аб адносінах да яго бальшавікоў.

N. I.

---

# Бальшавікі і рай на зямлі.

Бальшавікі кажуць, што створаць рай на зямлі.

Але людзі ўжо так прывыклі да розных абяцанак, што і ў гэную прыгожую абяцанку ня вераць.

І запраўды, дзіўна неяк?—Бальшавікі і рай!..

Але прыглядзеўшыся добра да усяго таго, што робіцца ў бальшавізіі, паміма волі прыходзіш да пракананьня, што стварэньне раю на зямлі гэта саўсім магчымая абяцанка, якую бальшавікі запраўды хочуць споўніць...

Дзіўна, але гэта так.

Бо што такое рай?

Святыя кніжкі нам тлумачаць, што рай, гэта быў вялізарны сад, у якім жыло шмат розных зьвяроў і іншых твораў зямных, і быў паміж імі адзін толькі чалавек—Адам.

І было там ціха і спакойна. Зьвяры жылі паміж сабою ў згодзе і слухалі Адама. І Адам, таксама жыў мірна, бо ведама, ня было з кім сварыцца...

Як толькі Бог стварыў Эву—справа пайшла іначай. Эва намовіла Адама да граху, людзі пачалі размнажацца, пачаліся паміж імі спрэчкі і... раю як ня было!..

Гэткім чынам, мы бачым, што каб вярнуць зноў рай на зямлю, дык трэба зрабіць так, каб на зямлі зноў застаўся толькі адзін чалавек...

Вось, калі мы цяперака пагледзім на тое, што робіцца ў бальшавізіі, дык прыйдзем да пракананьня, што абяцанка бальшавікоў аб раі на зямлі, гэта ня жарт і ня цацанка.

Яны запраўды хочуць зрабіць гэтак, каб на зямлі застаўся толькі адзін чалавек...

Над стварэньнем раю зямнога працуюць бальшавіцкія чрэзвычайкі, прыгаварываючы сотні тысячаў людзёў да разстрэлу; на рай гэны працуе голад, холад і розныя пошасьці, ужо ня тысячамі, а цэлымі мільёнамі заганяючы людзей у магілы; дзеля выпаўненьня гэных абяцанак бальшавікі кідаюць сваіх чырвонаармейцаў у крывавыя войны, дзе сотнямі тысячаў, як мухі яны прападаюць. Дзеля гэных абяцанак, бальшавікі даюць гарадзкім ра-

ботнікам даюць аружжа ў рукі і вядуць іх на сялян—кажучы: „вось вашы ворагі, што ня хочуць даць вам хлеба“, а адначасна, з другога боку, цкуюць селян на работнікаў кажучы: „вось вашы ворагі, бо яны ня хочуць працаваць на фабрыках і рабіць патрэбныя для вас сельскія прылады і іншыя рэчы.

І ракою льецца кроў людзкая і стогн уміраючых нясецца пад зямлёю і ў неба ляціць праклядцьце бяздольнага народу.

Вось тыя шляхі, якімі йдуць бальшавікі, каб выпаўніць сваю абяцанку аб стварэньні раю на зямлі.

Няма чаго казаць, што шлях яны выбралі просты...

Толькі сумлеваюцца людзі, што давядзе ён іх да раю на зямлі, бо трудна дапусьціць, каб расейскі народ і паднявольныя бальшавікам іншыя народы, як стада баранаў бяз ніякага пратэсту пойдуць пад нож бальшавіцкіх разьнікоў, каб аддаць жыцьцё сваё ў імя стварэньня раю на зямлі, у якім новым Адамам мае быць Лейба Троцкі!?

Дый яшчэ і дзеля таго, што і зьвяры, наглядзеўшыся на работу бальшавікоў, зрабіліся цяпер іншымі, чым былі калісь і заместа таго, каб слухаць Лейбу Троцкага, з'ядуць яго!..

Мусі ўжо пад гэткай нешчасьлівай плянэтай нарадзіліся бальшавікі—што нічога ім не удаецца, і рай на зямлі, ня гледзячы на усе стараньні бальшавікоў, так і застанецца хворай іх фантазіяй і пяройдзе ў народ, як страшная казка мінулых дзён.

**М. Знахар.**

# Чым жыве Вільня?

Яшчэ нядаўна уся ўвага віленскага грамадзянства была зьвернута на Сойм, да працы каторага яно пільна прыглядалася. Але з таго часу, як Сойм вынес сваю гістарычную рэзалюцыю аб далучэньні Віленшчыны да Польшчы,—Вільня супакоілася і каб не газэты, амаль сусім забылася-б аб Сойме.

І калі-б хто ў некальких словах хацеў адказаць на пытаньне, што робіць цяперака Вільня, дык не знайшоў-бы іншага адказу, як толькі адзін:

„Вільня гуляе, Вільня скача“.

Віленскія газэты кожны дзень друкуюць аб весткі аб рожных гульнях, балях і маскарадах. То гуляюць дахтары, то „Кола полек“ то хто іншы.

Найцікавейшае тое, што амаль ня большасьць гэных гульняў прыкрываецца фігавым лістам дабрадзейства, афяроўваючы даходы з баляў на розныя высокія справы, на вайсковых і інвалідаў, на дапамогу ўцекачом, варочваючымся з Расеі бежанцам, на школы, на народную прасьвету, на прытулкі для бедных і г. д.

І людзі лятуць, як ачумеўшы. на гэныя балі і маскарады, купляюць дарагія білеты, трацяць грошы на дарагія буфэты і скачуць, скачуць бяз канца.

Нейкае п'янае вясельле ахапіла Вільню, вясельле чалавека, які альба звар'яцеў ад радасьці, альба страціўшы усё,—гуляе на апошнюю капейку, бо ўжо траціць болей німа чаго...

# Гутаркі аб злым сьмеху.

„Кажуць, што сьмех для чалавека патрэбен як аздоба яго сумнага жыцьця.

„Кажуць, што і сьлёзы патрэбны для жыцьця, каб сьмех даражэй цанілі людзі.

„А я кажу вам:

„Высьцерагайцеся, каб не ўжываць нічога праз меру, тагды ня будзе зла на сьвеце...

„Ня сьмейцеся сьмехам сытага, калі ёсьць галодныя.

„Ня сьмейцеся галодныя на пацеху сытых, бо наймаючыся да іх у блазны—патураеце злу“.

Так навучаў людзей Прарок ходзячы па зямлі створанай Богам.

Але людзі слухалі яго й жылі сабе далей па своему і сьмяяліся з Прарока:

— Нашто нам задумвацца і разважаць над тым, што для нас спраўляе прыемнасьць?

І сказаў тагды Прарок:

„Яшчэ не прышла пара мая, але кажу вам, што задумаецеся вы над гэтым і, як цяпер беспатрэбы сьмеяцеся, так мо будзеце пасьля без патрэбы плакаць“.

Сказаўшы гэтыя словы адыйшоў Прарок.

Мо ён і ня вернецца.

Але тагды застанавіліся людзі і пачалі разважаць:

— А мо і праўду ён казаў? Давайце разьбяромся.

Прайшло многа часу. Людзі думалі, разважалі і нарэшце ўцямілі, што ткі праўду казаў Прарок.

Але ня ўсе, пакуль што, зразумелі яго. Шмат людзей ёсьць на сьвеці такіх, што ня лёгка ім даецца ўсякая праўда.

Ходзяць гэтыя людзі і сьмяюцца з праўды і ня бачаць, не адчуваюць таго, якія яны самі сьмешныя ня толькі перад тымі праўду пазнаўшымі, але і самі перад сабою і перад тымі, на чыю пацеху сьмяюцца яны...

Нельга сказаць, каб надта вялікае зло рабілі гэтыя людзі, бо што можа зрабіць жменька перад грамадою?

Дый нельга сказаць, каб і надта сьмешныя былі яны, бо які сьмех можа выклікаць у здаровага чалавека хворы душою, сэрцэм і розумам блазан?

Як можа сьмяяцца маці, калі яе сын выракаецца яе, кпіць з той мовы, якою яна песьціла яго дзіцячае вуха, якою яна песьні над калыскай пяяла яму?

Як можа сьмяяцца бацька, сын каторага бэсьціць родны звычай і пнецца да чужых прадаючы ім сябе?

Як можа сьмяяцца той, чый брат, ці сястра пакінулі сваю родную хату і ніву і пайшлі як

І дзіўна неяк глядзець на гэных скакуноў, дзіўна чуць гукі вайсковай музыкі калі позна ў начы, альба на раніцы, прадзіраючыся праз дубэльты шклоў яны глухім рэхам разносяцца па пустых бязлюдных вуліцах Вільні.

Вільня гуляе, Вільня скача, забыўшыся і аб інвалідах і аб прыпынках для бедных, і аб народнай прасьвеце, і аб усім тым, ў імя чаго робяцца гэныя гульні.

Забыліся!

А ці хаця на хвіліну памяталі арганізатары гэных баляў, аб тых забытых і нешчасьлівых? Ці думалі яны аб інвалідах абвешчаючы, што збор з балю пойдзе на дапамогу інвалідам? Ці думалі яны аб прыпынках для бедных? ці думалі і ці запраўды хацелі пасабіць усім тым, хто ў барацьбе з цяжкай нядоляй чакае дапамогі ад грамадзянства?

Не яны ня думалі ніколі аб іх.

Хто хацеў і лічыў сваім абавязкам стварыць хрысьціянскае міласэрдзе, таму не патрэбны балі і маскарады.

Яны патрэбны для тых, хто громкімі словамі хацеў заглушыць голас свайго сумленьня, стогн бяздольных, які страшным дыссанансам уліваецца ў іх п'янае вясельле.

X.

# Палітычныя весткі.

## Аб конфэрэнцыі у Гэнуі.

8-го сакавіка г. г. у Гэнуі (Італія) маюць адбыцца нарады ўсіх дзяржаваў аб гаспадарскай адбудове сьвету. Усе дзяржавы старанна рыхтуюцца да гэтых нарадаў. Запрошаны на гэтыя нарады паміж іншымі дзяржавамі Польшча, Літва, Латвія і Савецкая Расея. Францыя прапануе адлажыць нарады на пазьнейшы час, але Англія высказваецца процiў гэтага. Дзеля таго, што ўжо застаецца мала часу да 8-го сакавіка і дзеля таго, што ў Італіі, гдзе павінны адбыцца нарады, ўсе міністры вышлі ў адстаўку, а новыя яшчэ не назначаны,—нарады, здаецца, будуць адложаны. Амэрыканскія Злучаныя Штаты яшчэ не далі адказу, ці будуць яны прыймаць удзел у нарадах. Як паведамляюць, бальшавікі падтрымаюць на нарадах патрэбаваньне Гэрманіі аб зьмене некаторых надта цяжкіх для яе варункаў мірнага дагавора (так званага Вэрсальскага трактату), а Гэрманія затое падтымае дамаганьні бальшавікоў аб зьмене дагавораў Расеі з адышоўшымі ад яе дзяржавамі, ў тым сэнсе, каб гэтыя дзяржавы прынялі удзел у сплаце старых расейскіх даўгоў. Бальшавікі маюць памер патрэбаваць на нарадах фармальнага прызнаньня сабецкай улады у Расеі.

какаўкі, ці лякаі-падметаць сені таму, каму патрэбны такія лякаі?

Як можа цешыцца ўся старонка, ўвесь народ—калі на торжышчах, якія рыхтуюцца ворагамі,—свой брат, наш чалавек прадае сваю душу?

Не, тутка і дзіця малое не засьмяецца.

Тутака і вогар сам, калі ўсьмяхнецца—дык горкай, прыкрай для яго самога ўсьмешкай, бо прыклад гэткі не пацешны, бо не захочацца яму ўспомніць аб тым, што і яго мо так гдзе на торжышчы прадае свой, з яго боку родны.

Толькі Дух Зла, як сіла праціўная дабру і шчасьцю людзкому—іржэ закацістым, жудасным сьмехам:

— Ха-ха! Якія вы сьмешныя людзі! Ха-ха!

Але не заўсёды будзе сьмяяцца шатанская сіла! Бо верацъ людзі, што праўду казаў Прарок:

„Высьцерагайцеся, каб не ўжываць нічога праз меру, тагды ня будзе зла на сьвеці...

„Ня сьмейцеся сьмехам сытага, калі ёсьць галодныя.

„Ня сьмейцеся галодныя на пацеху сытых, бо наймаючыся да іх у блазны—патураеце злу".

І гэтак будзе.

Людзі паверылі Прароку і спаўняюць яго законы.

І згіне на заўсёды шатанскі сьмех над горкай людзкой доляй.

**Язэп Піліпаў.**

## ПІРОГ.

Раз так неяк на кірмашы
Восеньню, мой братка,—
Дзьве зышліся бабы нашы—
Дачушка і матка.
Матка зараз усё знаці
Хоча, як быць мае...
Ну вядома, так як маці—
У дачкі пытае:
— А мая-ж ты,—кажа,—кветка
Як-ж табе жывецца?
Ці ня надта з мужам копска?
Мо, часамі, бьецца?..
— А матуля-ж мая родна,
Лепш-бы я сядзела—
Так мне замужам нягодна,
Так мне надаела...
Мой мужык, табе прызнацца,
Сыты ці галодны
Усё яго трэба баяцца,
Гэткі ўжо нягодны;
А ніхай сам Бог бароне!
Кажу без абману:
Я сьпякла яму сягоньня
Піражок румяны.—
Мягкі, жоўты,—як той кажа,—
Сьпечаны да рэчы,
А ён, гад, як ім засмажа
Проста мне ў плечы!..
А няхай яго нячысты
Да сну укалыша!—
Я ўжо думала, ўсечыста
Косьці мне пакрыша!!..

**Стары Улас.**

## Урадавы крызыс у Італіі.

У Італіі з прычыны выражанага парлямэнтам (Соймам) недаверра выйшлі ў адстаўку ўсе міністры. Новыя яшчэ не назначаны.

## Выбары у Польскі Сойм.

У Польскім Сойме ў Варшаве разгледжваецца цяпер закон аб новых выбарох у Сойм. Выбары адбудуцца ў восені, ня пазьней кастрычніка месяца гэтага году.

## Няпарадкі ў Расеі.

Паўстанчы рух у Саўдэпіі расьце ўсё болей і болей.

У Туркестане паўстанцы стараюцца захапіць у свае рукі жалезныя дарогі.

На Далёкім Усходзе ідзе вайна паміж бальшавікамі і „белым“ ўрадам Меркулава (Уладывасток).

Разьбітыя ў баёх бальшавікі арганізуюць партызанскія атрады, але яны ніякага пасьпеху ня маюць, бо мяйсцовае насяленьне воража да іх настроена.

Вядомы атаман паўстанцаў Антонаў арганізуе ўсенароднае апалчэньне ў районе Курска, Воронежа і Тамбова. Антонаў мае намер вясною йсьці на Москву.

Зноў пачаліся партызанскія напады на бальшавікоў у Савецкай Беларусі.

## Няпарадкі ў Ірляндыі.

Ірляндыя, якая сотні гадоў вяла барацьбу з Англіяй за сваю незалежнасьць адтрымала, нарэшце, надта шырокую аўтаномію са сваім уласным урадам і парлямэнтам (Соймам) і ў гэтым сэнсе зробляны дагавор паміж Англіяй і Ірляндыяй. Але частка Ірляндыі (Ульстэр), якая ня згаджаецца на аўтаномію і дамагаецца поўнай незалежнасьці,—яшчэ дагэтуль вядзе барацьбу з Паўднёваю Ірляндыяй, якая на аўтаномію згодна.

# Рожныя весткі.

## Прыезд ген. Жэлігоўскага.

Ген. Желігоўскі вярнуўся ў Вільню як прыватная асоба.

## Зліквідаваньне канцэнтрацыйных лагероў у Саўдэпіі.

Прэзыдыум Маскоўскага Савету пастанавіў зліквідаваць канцэнтрацыйныя лагеры.

## Агульна-Эўрапейскія нарады.

Польскі Урад зьвярнуўся да Лігі Народаў з просьбаю склікаць у Варшаве агульна-эўрапейскую конфэрэнцыю з мэтаю вышуківаньня сродкаў барацьбы з пошасьцямі, пагражаючымі ўсёй Эуропе.

## Фальшывыя грошы.

У апошнім часе зьявіліся фальшывыя грошы —тысячамаркоўкі новага тыпу. Гэтыя грошы лёгка пазнаць, бо дрэнна надрукованы.

## Страшны выпадак у Амэрыцы.

Недаўна ў Вашынгтоне (Амэрыканскія Злучаныя Штаты) ад массы сьнегу, які ляжаў на даху аднаго з найвялікшых тэатраў у месьце, рунуў разам са сьнегам на салю тэатру. Забіта 125 асоб, а 250 ранена. Сотні раненых праз доўгі час ня маглі ніяк выбрацца з пад грузу.

# Весткі з краю.

## Вялейскі павет.

„Прышлі грамніцы, скідай рукавіцы“—кажа прыказка, а на самым дзеле сёлета наадварот: Зіма цяжкая, стаяць маразы ад самых Каляд, ні воднай адлігі сёлета ня было. Шмат у каго няма ўжо скаціне корму. Сьнягі вялікія; калі здараецца едучы канямі даваць дарогу, дык зьехаўшы на бок, трудна ўзьехаць ізноў на дарогу. Хоць ты бомамі, ды каламі выважывай з сьнегу каня ды сані на дарогу.

Заработкаў у нас ніякіх няма.

Цэны на збожжа ніжэюць: у м. Ільлі жыта каштуе 1000 марак пуд. а то і 800; жывёла гэтакжа дзешавее, адно ўсё толькі крамныя тавары, даражэюць. Коні цану трымаюць вялікую. Вайна з бальшавікамі ўсе коні ў нас зьвяла.

Як казаў мне адзін сялянін, у в. Сычавіч забралі толькі 49 канёў, з калёсамі і ўсей упражжу. А так зроблена шмат гдзе. Шмат хто ня мае вясной чым урабіць поле. Добра было-б, каб у гэтым кірунку памог хто-небудзь і чым-небудзь нашаму сялянству, глядзі зямля ўся была-б засеяна, было-б болей хлеба, ўсё бы дзешавела. Прыгажэй-бы было-б і жыць на сьвеці, а то трудна.

Дзед Тадэвуш.

## М. Радашкавічы Вял. пав.

Усе тутэйшыя беларускія арганізацыі і дзеячы пастанавілі прасіць Цэнтральны Камітэт Краёвай Сувязі аб адчыненьні ў Радашкавічах аддзелу К. С. — аб чым паслана ўжо дэпеша ў Цэнтральны Камітэт. Сялянства наша вельмі рада, што Краёвая Сувязь так шчыра бароніць нашы родныя беларускія справы. Даведаўшыся, што ў Радашкавічы прыедзе чытаць лекцыі п. Аляксюк, вясковае сялянства вельмі цікавіцца, калі гэта будзе!?

Д. Т.

## М. Радашкавічы.

Тут разнясліся весткі, што гэтымі днямі бальшавікі адойдуць і стануць па Мінска-Вілянскай мяжы. Як кажуць Новы Млынок ужо заняты польскай пагранічнай ахранай. Рагова, кажуць ачышчана таксама. Вельмі было-б добра каб гэны чырвоны „рай“ адкаціўся яшчэ далей, бо

праз яго ў нас расла толькі дарагоўля, якую рабілі кантрабандзісты, якіх каля нас так завялося многа.

Д. Т.

13. II. 1922 г.

### Забойствы.

— На хутары Балахвое II., Сьвенцянскага п. забіта семья Арамовічаў і работнік Альфонс Басяк,—усяго сем чалавек. Забойства зроблена з мэтаю грабежа. Забойцы ў ліку чатырох чалавек арыштаваны і ў хуткім часе над імі адбудзецца надзвычайны суд.

— У маёнтку Малінова, Сьвенцянскага павету, ў часе ігры ў карты выстралам праз вакно забіты памешчык Ян Канчанін. Забойства апошняга зрабіў яго сын Зыгмунт, бо бацька ня пазваляў яму жаніцца з вучыцялькаю суседняй вёскі Аленай Шгемірскай. Арыштаваны Зыгмунт Канчанін з нявеДамай прычыны памёр.

### **Вёска Вытраскі,** Крывіцкай гміны, Вялейскага павяту.

6 студня 22 году ў нашай вёсцы памёр сялянін, радня катарага выпаўняючы хрысціянскі абрад, прывязлі з м. Крывічоў бацюшку і дзяка, каб пахаваць нябошчыка. Як толькі прыехаў бацюшка і зайшоў ў хату, дык адразу пачаў таргі, вымагаючы каб яму заплацілі 10.000 мар. Калі родныя пачалі прасіць бацюшку, каб хаця ўзяў за пахаваньне 5 тыс. (і гэта вялікія грошы для нас бедных сялян,—зарабіць німа гдзе), бацюшка не ўступіў і сказаў, калі ні дасьцё 10.000 мар., дык вязіце мяне назад дамоў—я за 5 тыс. хаваць ня буду. Што-ж, воляй ня воляй, прышлося заплаціць 10.000 мар., катория пазычылі ў вёсце

Бацюшка пачаў маліцца і памаліўшыся сказаў невялікую прамову:

„Вось якое марнае жыцьцё чалавека—ўчора быў жывы, а сягодня памёр, а вы ўсё скупіцеся, шкадуеце, беражеце, а самі ня знаеце свайго дня канчыны“...

Калі ўжо труну накрылі векам і пакрылі пакрывалам, дык бацюшка гэта пакрывала зьняў і ўзяў сабе. Тагды дзяк, бачучы, што бацюшка робіць не справядліва, кажа.

„Гэта пакрывала павінна быць для мяне“. І пачалі яны паміж сабою спрачацца...

А нябошчык, вынясяны на вуліцу, стаяў на возе блізка гадзіны, аж нарэшце бацюшцы ўдалося надурыць дзяка, сказаўшы, што я спаведаў ў вёсцы Восаве аднаго хворага, каторы пасьля заўтра пам рэ, дык дзяк возьме сабе тое пакрывала...

Дык толькі не так выйшла ў вёсцы Восаве, гэты самы нябошчык жыве і дагэтуль і нават ня думае паміраць, а дзяка ўзялі ў салдаты.

Дык вось як, хаваюць у нас нябошчыкаў!

А вось яшчэ адно:

Наша парафія была багата лесам які належаў да царквы, каторы надта кідаўся нашаму бацюшцы ў вочы. Бацюшка сазваў царкоўны камітэт, каб зрабіць рамонт падлогі і новую плебаньню сабе. Вядома, што камітэт гэты іграе ў адну дудку з бацюшкам, ды яшчэ і самі камітэтчыкі бачылі, што і ім можна тутака пaднажыцца. Узяліся самі за гэты падрад—вазіць да царквы гэтыя броўны па гэткай ўмове: калі да царквы прывязуць адно браўно—тады дамоў два.

А парафіяне Крывіцкай царквы толькі патыліцы свае пачэсваюць, як бацюшка парадкі наводзіць...

Сялянін.

### **Вёска Гарнякі,** Краснасельскай гміны.

Гарэлачка, дзякаваць Богу, нашым дзяцюком паддае ахвоты да разбойства... У ночы з 11 на 12 лютага было тут вясельле. Радзёўскія дзяцюкі напіўшыся гарэлкі прышлі ў Гарнякі і пачалі біцца з нашымі, (бо Радзёўцы надта добрыя забіякі). У рэзультаце бою ў гаспадара, ў якога было вясельле, выламаны дзьверы. Міхасю Казакевічу патаўклі мазгі, нейкім жалезам. Брату аблавагова старасты Кузьме Карчміту каламі зламалі сьпіну; Доньку Казакевічу адрэзалі руку; аднаму папаролі нажамі плечы. Ніводнага плоту не асталося цэлага—ўвесь паламалі на галавах. Міхась Казакевіч, кажуць, ужо сканаў.

Вёскі Мазалі, Гарнякі і Радзёўцы даўно ўжо славяцца забіяцтвам. У гэтым „слаўным баю“ былі гэроямі і жаўнеры, якія стаяць у в. Гранічах. Шмат забіякаў ўжо паарыштавана. Увесь сьнег на вуліцы заліты крывёй.

1922 г. 13.2. Дзед Тадэвуш.

### **М. Радашкавічы,** Вялейск. пав.

9 лютага сюды прыяжджаў Ваявода Навагрудскага Вокругу пан Рачкевіч. Віталі Ваяводу адміністрацыя места і прадстаўнікі грамадзянства. Віталі гэтак-жа п. Ваяводу і тутэйшыя беларускія дзеячы, урад таварыства беларускае школы п. п. А. Уласаў і А. Більдзюкевіч. Пасьля прывітаньня беларусамі пана Ваяводы, ён папрасіў ўсіх прысутных пакінуць пакой, апрача беларусаў, з якімі доўга бяседаваў. Выслухаўшы ўсе жалабы і даведаўшыся аб усіх тутэйшых беларускіх справах, Ваявода абецаў ўваўсім памагчы і разабрацца. Паміж іншым, Ваявода падкрэсьліў, што ён заўсёды будзе прыхільны да беларускага руху, але калі апошні будзе не антыдзяржаўны. У справе скарэйшага адчыненьня ў Радашковічах беларускай гімназіі, дакляраваў дапамагчы і зрабіць распараджэньне аб скарэйшым адчыненьні яе.

1922 г. 13.2. Д. Т.

### **Краснасельская гміна,** Вялейск. пав.

Войт Краснасельскай гміны саўсім ня ўмее распарадкаваць грашмі, якія яму адпушчаны на дрова для школ. Вось напрыклад, замест таго, каб дровы для кождай школы ўрадовай, закупіць у бліжэйшым раёне каля школы, дык ён закупіў іх у краснасельскім надлясьніцтве ў вадным толькі абходзе. Тагды як надлясьніцтва прадае дровы ў ваўсіх скарбовых лясох. Ад некатарых урадовых школ да гэтых дроў так далёка, што і гэтыя дровы няколі нівартны за адну іх дастаўку да школы. А ў нас на ўсякім 5-ці вёрстку ёсьць казённы лес, у якім надлесьніцтва прадаець дровы. Дзеля гэтага шмат школ ад гэтых дроў адмовілася, бо не знайдзем такіх хурманак якія-б былі ахвотны ехаць за гэтымі драўмі, ў гэтыя

мяцеліцы, ды так далёка. Вельмі было-б добра, каб школьная ўлада не адпускала сумм грашавых гмінам, а каб перадавала іх непасрэдна школам, бо войты не ўваходзячы ў палажэньне школ, усё робяць так, як ім лягчэй, тагды як сам вучыцель будзе турбавацца аб школе як найлепей.

1922 г. 13.2 Д. Т.

**Хаценчыцы,** Вялейскага пав.

Селяне в. Кулешоў болей як 5 месяцаў таму паслалі заяву школьнаму інспэктару каб у іх вёсцы адчыніць беларускую пачатковую школу.

Сабраньне солтысаў гміны у пратаколе сваім ад 4 верасьня 1921 г. за № 8 пастанавіла: каб у в. в. Лоўцевічах, Карпавіч, Кулятах, Шіпках, Казлох, Сакольлі-Угле былі адчынены польска-беларускія школы. Гэтым пастанаўленьнем солтысы гміны пацьвердзілі заяву жыхароў вышэйўспамянутай вескі—уключаючы яе у план школьнай развёрсткі на 1921|22 вучебны год.

Здаецца, досыць довадаў, якія сведчаць аб сапраўдным жаданьні жыхароў вескі мець школу на сваей роднай беларускай мове. Школьнаму інспэктару няма чаго сумлевацца, што заяву падпісалі жыхары вёскі толькі дзеля таго, каб адчапіцца ад вучыцелькі ці вучыцеля, якія сядзяць без пасады. Гэта падстава, нямае мейсца у нас. Жаданьня мець беларускую школу не з'явілася дзякуючы агітацыі аднаго нацыянальна-свядомага чалавека, а пачуццем нацыянальнага самасазнаньня, патрэбай духоўнага развіцця усяго беларускага грамадзянства, і пану школьнаму інспэктару пара прыслухацца да гэтага голасу.

Нарэшце школу у нас адчынілі, але не беларускую, якую прасілі селяне, а польскую. Прысланы вучыцель „высшай" культуры абвясціў вёсцы, што прымае запісы у школу і будзе браць па 200 марак упісных ад каждага вучаніка. Ніхто не пашоў запісывацца і вучыцель паехаў. Праз нейкі час прыехаў другі, які запісаўшы (але ужо бязплатна) чалавек 25 распачаў заняцьця...

Нам беларусам выключна польскія школы непатрэбны, бо яны ня прыносяць ніякай карысьці. Навука у чужой незразумелай мове, забівае усякую здольнасць, адбівае ахвоту вучыцца і гэтым прыносіць вялікую шкоду.

Тутэйшы.

# Цікавыя гісторыі.

## Спрытныя зладзеі.

— У апошні час у Вільні было зроблена каля 10 крадзежаў гарэлкі гэдакім спосабам:

У рэстаран, альбо ў склад гарэлак заходзіў адзін незнаёмы з кошыкам і прасіў прадаць колькі бутэляк гарэлкі, якія і клаў у свой кошык. У гэты момант, туды-ж заходзіў другі незнаёмы з такім самым кошыкам з бутэлькамі з вадою і што небудзь купляў. Потым першы незнаёмы, кажучы, што яму трэба пайсьці на колькі мінут у суседні склеп, пакідаў кошык з гарэлкаю і выходзіў. Тым часам другі незнаёмы няўзнак меняў кошыкі і так сама выходзіў.

## Бацька 32 дзяцей.

У Амэрыцы адзін нэгр ёсьць бацькам 32 дзяцей з якіх 26 жывы і цяпер.

## Ня ў пору выбраўся.

Аб цікавым здарэньні апавядаюць амэрыканскія газэты. Адзін духоўнік у Міамі, у штаце Флёрыда (Амэрыка) вучыў Закона Божага тутэйшых жыхароў — і белых і чорных (нэграў). Чалавек просты, добры, заслужыў сабе прыязьнь і паважаньне як адных так і другіх і думаў, што можа разлічваць на іх пачуцьцё і добрую волю так, як яны маглі разлічваць на яго. Дзеля гэтага нядаўна рашыўся на адважны крок: у перапоўненай сьвятыні пачаў горача гаварыць аб патрэбе зблізкэньня паміж белымі і чорнымі. Толькі ён гэта сказаў, як белыя парафіяне сталі яго лаяць і пагражаць яму кулакамі. Тагды ён зьвярнуўся ў бок чорных, думаючы, што тыя яго падтрымаюць, але нэгры накінуліся на яго і сьцягнулі з казальніцы. Пасьля гэтага ён папрасіў помачы ў белых, але тыя вывалаклі яго з сьвятыні і разам з чорнымі добра яго набілі і змусілі зусім пакінуць ваколіцу.

## Чалавек напоўнены брыльянтамі.

Тэлеграфнае агэнцтва „Руспрес" падае вельмі цікавую вестку з Прагі (чэскай).

На вакзале ў гор. Багуміне заарыштована чалавека, гадоў 26, які назваўся савецкім камісарам. Па дакумэнтах ён называўся Е. Мара. У паліцыі выясьнілася, што арыштаваны гаворыць на 7 мовах (па французску, англіцку, румынску і нямецку) і апроч таго разумее па чэску. Ен заявіў, што з'яўляецца ўцекачом з Румыніі і ня мае нічога супольнага з бальшавікамі.

Калі яго пасадзілі ў вастрог, ды ён маніўся адтуль уцячы і дзеля гэтага хацеў падкупіць вастрожную прыслугу, але ня ўдалося, бо гэта толькі змусіла паліцыю зрабіць „цялесны вобыск", які даў зусім неспадзеваныя рэзультаты. У дуплох яго зубоў знайшлі брыльянты, за зубамі мудрасьці ў роце знайшлі два невялікіх мяшечкі з дробнымі дарагімі каменьнямі, ў запальнічцы— таксама знайшлі брыльяны. Тры брыльянты знайшлі ў ботах. Тагды арыштованаму зрабілі леватыву, якая выцягнула яшчэ два вялікія брыльянты, якія знаходзіліся ў нутры ў арыштованага.

Апрыч залатога гадзінніка і грошай арыштаваны меў многа рожных цэннасьцяў на 300.000 чэшскіх кронаў.

Пасьля вобыску арыштаваны прызнаўся, што ён займае паважнае становішча ў расейскім савецкім урадзе і што ён быў сумысьля пасланы ў Прагу з інструкцыямі да чэскіх бальшавікоў.

Далей ён (праўдзівае прозьвішча якога, бытцам, Горовіц) прызнаўся што з ім ехалі яшчэ два камуністы, якія таксама вязьлі з сабою вялікія грошы і многа агітацыйнай літэратуры, якія баяўшыся арышту на польскай граніцы, выкінулі з вагону праз вакно чэмаданы з літэратурай, спадзяючыся перакінуць гэтыя чэмаданы праз граніцу пры дапамозе падкупленых служачых жалезнай дарогі. Аднолькава ім гэта не ўдалося і яны былі змушаны вярнуцца ў Расею.

### Чапавечая сланіна.

„Виленское Утро“ ў № 118 надрукавала такую цікавую рэч:

Прыехаўшая нядаўна ў Вільню з Менска адна пані перадае аб такім выпадку, які меў мейсца нядаўна ў Менску.

У яе памёр муж. Адзеўшы нябошчыка ў зусім новую сурдутовую адзежу, жонка пахавала яго. Праз некалькі дзён, праходзячы па рынку, ўдава ў аднаго гандляра прыкмеціла гэтую самую сурдутовую адзежу. Ня кажучы нічога гандляру, яна пачала таргаваць у яго гэтую адзежу. Старгаваўшыся з гандляром, пакупшчыца заявіла, што ў яе не хапае крыху грошаў і папрасіла гандляра зайсьці да яе да хаты, на што апошні згодзіўся.

Замест каб у сваё памешканьне, пані гэтая павяла яго ў адзін з камісарьятаў міліцыі. Уваходзячы на ўсходы, гандляр прыкмеціў, куды яго вядуць і хацеў ўцячы, але ёй, пры помачы міліцыянтаў, якія збегліся на яе крык, удалося гэтага гандляра затрымаць.

Пры дапросе гандляр прызнаўся, што ў Менску істнуе шайка, якая займаецца раздзеваньнем нябошчыкаў і прадажай іхняй адзежы,

Калі сьледавацелям была адкопана могілка памёршага, дык у дамавіне аказаліся толькі адны косьці, усё мяса была абрэзана...

У далейшым сьледавацельская ўлада ўстанавіла істнаваньне цэлай шайкі, якая абкрадала нядаўна памёршых нябошчыкаў, абрэзывала з іх мяса і прадавала гэта мяса на рынку пасоленае і пасечанае на дробныя кусочкі, каб нельга было пазнаць, што гэта за мяса. Тут-жа на рынку прадаваліся піражкі з гэтай „сланіны“, якой знойдзена да 20-ці пудоў.

Паведамляюць з Маладэчна, што у Менску разглядаецца дзела аб людаедзтве. Абвінавачваецца сторож з гарадзкіх могілак.

## Беларускае жыцьце.

### Хвароба А. Левіцкага.

У Вільні, у Літоўскай Клініцы ляжыць саўсім хворы на сухоты вядомы беларускі пісьменьнік А. Левіцкі (Ядвігін Ш.).

### Бальшавіцкія рэформы.

Як паведамляюць бальшавіцкія газэты, Вітэбшчына прылучана да Смаленшчыны, а Магілёўшчына ў Беларускую губэрнію.

### У студэнтаў.

Беларускі студенцкі саюз арганізуе бібліатэку-чытальню.

На гэтых днёх пачне выхадзіць студэнцкі месячнік пад назваю „Наш шлях“.

### „Беларускія Ведамасьці“.

З прычыны арышту і высылкі рэдактара газэты „Беларускія Ведамасьці“ Максіма Гарэцкага, газэта перастала выходзіць.

### Студэнцкі вечар.

У нядзелю 19-га лютага, у Вільні Беларускі Студэнцкі Саюз устроіў свой вечар. Вечар быў адчынены уступнаю прамоваю студэнта Абрамовіча. Потым была пастаўлена п'еса „Няскончаная драма“ ў 4-ох актах ф. Аляхновіча пад кіраўніцтвам і з удзелам самога аўтара. Драма сыграна была надта добра. Пасьля драмы хор пекна пеяў беларускія народныя песьні.

### Школьная справа.

Да 1-га лютага г. г. у Цэнтральны Камітэт Краёвай Сувязі паступіла болей як 300 прыгавараў аб адкрыцьці беларускіх школ. Усе прыгавары адасланы да адпаведных школьных уладаў.

### Беларусы у Латвіі.

Урад Латвіі выбраў места Дзьвінск, як цэнтр культурнага жыцьця беларусаў. Маючы на мэце падгатоўку вучыцялёў для беларускіх школкаў, урад адчыніў у Дзьвінску аднагадовыя вучыцельскія курсы. У гэтым годзе там-жа будзе адчынена беларуская вучыцельская сэмінарыя. Дзеля таго, што ў істнуючых 47 беларускіх школках адчуваецца нядахват школьных падручнікаў, урад Латвіі адпусціў на гэтую мэту значныя сумы. Ужо куплена падручнікаў на 160000 латвійскіх рублёў. З восені ў Дзьвінску адчыняецца беларуская гімназія. (В. А. П.)

## БЕЛАРУСКІ ТЭАТР.

У нядзелю, 19 лютага ў памяшканьні Беларускага Музыкальна-Драматычнага Гуртка, Віленскі студэнцкі гурток устроіў сваю вечарынку, на якой, першы раз на сцэне была пастаўлена 4-ох актавая пьеса „Няскончаная Драма“ Фр. Аляхновіча.

Як і большасьць твораў гэтага знанага і здольнага аўтара, лепшага беларускага драматурга. — „Няскончаная Драма“ зрабіла моцнае ўражэньне і выклікала, ўскалыхнула тыя пачуцьці ў беларускага інтэлігэнта, якія мо ня раз кожны з іх перажыў працуючы на беларускай ніве і жывучы ў прыкрых абставінах як грамадзянскай, так і сямейнай паўсядненўшчыны.

Будні нашага жыцьця — прыкрыя, цяжкія, падчас едкія і немагчымыя.

Беларуская адраджэнская ідэя — сьветлая, сільная, сьвятая,

Але цярністы шлях ляжыць да яе!

А будні жыцьця яшчэ больш пагоршваюць гэты шлях, — яны апавіваюць яго прыкрымі згукамі.

Толькі шчыры дужы і адданы сын сваёй Бацькаўшчыне — пойдзе заўседы наперад; яго не затрымаюць будні, яго духа ня зглумяць ніякія абставіны.

Вось такое, больш менш, робіць уражэньне гэты новы драматычны твор Францішка Аляхновіча.

Сюжэт гэткі: Малады беларускі пісьменнік, поўны веры ў свае творчыя сілы і ў правату ідэі адраджэньня свайго народу—працуе ў газэце карэктарам, жыве ў беднай кватэры, жонка і дзіця яго галодныя, а сам ён піша драму каторая-б па яго думцы, як громам ударыла-б па галовах тупых людзей і ворагаў народных і, гарачым вагнём запаланіла-б сэрцы падняволянага народу.

Але... гасьне апошняя сьвечка, німа як пісаць, дзіця галоднае плачэ і жонка пачынае пілаваць гэтага мужа—паэту, што лепш, моў, пайшоў-бы ты на службу да маскаля якога, ці немца, чым пісаць на галодны жывот драмы, каторых есьці ня будзеш...

Ен любіць жонку, любіць маленькага сына і... ідзе на нейкую службу... Паліць сваю, яшчэ няскончаную драму...

Але даходзяць весткі, што у Менску Усебеларускі з'езд абвешчае сувэрэннасьць Беларускага народу... Яму трэба быць там... Яго пасылаюпь туды з Вільні... Ен рыхтуецца ў дарогу. Яго дух ізноў акрылены і ён, яшчэ перад выхадам хапаецца за пяро і пачынае на нова пісаць спаленую драму... —Менск—Ерузалім ты наш, Зямля Богам абецаная! — ўспамінае ён раней напісаныя монолёгі.

Уваходзіць жонка, якая варочаецца з магілкі памёршага ў прытулку іх дзіцяці.

Але не затрымае яго жонка. Сама не затрымлівае, ды і каб хацела-б затрымаць—не затрымала-б.

Ен ідзе ў дарогу... Ен пайшоў да зямлі, Богам абяцанай.

Там ён скончыць пісаць сваю драму.

Тутка, без яго, пачне перажываць новую драму яна.

Вельмі шкада, што я ня чытаў гэтай рэчы, (яна яшчэ ня выдана,) і што мне прыходзіцца пісаць рэцэнзію толькі першы раз пабачыўшы п'есу са сцэны. Дзеля гэтага, мо буду я й несправядлівы, але паводля майго ўражэньня, чацьверты акт напісаны аўтарам ці няўдала, ці на сьпех, бо няцікавыя і доўгія (ў адносінах да першых трох актаў) маналёгі паміж пакінутай жонкай, якая перш надта любіла мужа а цяпер надта лёгка кідаецца на шыю другому і не саўсім зразумелым тыпам Костуся — былі бытцам усыпляючай сьпеванкай, над тым акрыленым уражэньнем, якое спарадзілі першыя тры акты.

Трэба адзначыць, што ўсе артысты ігралі надта добра. Штучнасьці, шаржу — не адчувалася. Асабліва добра ігралі аўтар у галоўнай ролі Фр. Аляхновіч і жонка гэроя п. Сямёнава. Заслугоўвае вялікай пахвалы пані О. Касатая, якая здаецца, недаўна выступае на сцэне, але надта добра зайграла сваю роль прыяцелькі жонкі Васіля. Пан Шчэнсовіч як і заўсёды правёў сваю роль як здольны артыста, але, як я ўспамінаў, сама роль Костуся не надта выразная і не характэрная.

**Явэп П.**

## *Да нашых чытачоў!*

*Просімо усіх чытачоў „Роднае Страхі“ прысылаць у рэдакцыю весткі аб тым, што робіцца у іх вёсках і мястэчках. Пішэце аб усім, што Вас цешыць і маркоціць, хто як умее. Весткі гэныя мы будзем друкаваць у нашай газэце і гэткім чынам усяму сьвету будзем выказываць патрэбы нашае вёскі, аб каторай так часта забываюць у гарадох.*

*Наша газэта „Родная Страха“ з прычын незалежных ад рэдакцыі — не магла да гэтага часу выходзіць акуратна, але цяпер, з гэтага нумару будзе выходзіць што тыдзень.*

*Просімо усіх пашыраць гэтую газэту, бо яна будзе пісаць толькі аб нашых балючых селянскіх справах, даваць усялякія парады, пашыраць прасьвету і бараніць грамадзянскія правы беларускага народу.*

### Тыднёвы календарык.

| Чысла | Дні | Праваслаўны — ЛЮТЫ | Чысла | Каталіцкі — ЛЮТЫ | Сонца Усход г. м. | Сонца Заход г. м. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 11 | Пц. | С. Уласа | 24 | Мацея Ап. | 7 05 | 5 22 |
| 12 | Сб. | С. Мелеха | 25 | Зыкфрыда | 7 03 | 5 24 |
| 13 | Н. | Зап. на. Вял. п. Марп | 26 | Запусная. Алексан. | 7 02 | 5 26 |
| 14 | Пн. | Прп. Кірылы в. сл. | 27 | Леанарда | 7 01 | 5 29 |
| 15 | А. | Сьв, ап, Анісіма | 28 | Рамана Оп, | 6 55 | 5 31 |
| | | | | САКАВІК | | |
| 16 | Ср. | Св. Памфіла | 1 | Папелец. Альбіна. в. | 6 51 | 5 35 |
| 17 | Ч. | Св. Хведара | 2 | Алены | 6 49 | 5 36 |

Рэдактар-выдавец Я. Бэкіш. Друкарня „ДРУК“, Субач 2.